**№ 45 (627)**

Субота, 13 сакавіка 1999 г.

Выдаецца з ліпеня 1995 г. на беларускай і рускай мовах

Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень

Кошт: у кіёсках і крамах — 10000 руб., у індывідуальных гандляроў — свабодны.

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

Якуб Колас



# Ад першых крокаў дэмакратыі і надзеі на лепшае жыццё — да дыктатуры і жабрацтва?

**Пазіцыя**

*Сямён ШАРЭЦКІ, старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь 13-га склікання*

## Патрабаванні Канстытуцыі павінны выконвацца бездакорна

*(да пятай гадавіны з дня прыняцця Асноўнага Закону краіны)*

15 сакавіка 1999 года спаўняецца 5 гадоў з дня прыняцця Вярхоўным Саветам Рэспублікі Беларусь 12-га склікання Канстытуцыі — Асноўнага Закону Рэспублікі Беларусь. Прымаючы Канстытуцыю, дэпутаты падкрэслілі, што робяць гэта ад імя народа Беларусі, зыходзячы з адказнасці за цяперашні стан і будучыню Беларусі, а таксама ўсведамляючы сябе паўнапраўным суб'ектам сусветнай супольнасці і пацвярджаючы сваю прыхільнасць да агульначалавечых каштоўнасцяў, грунтуючыся на сваім неад'емным праве на самавызначэнне, абапіраючыся на шматвяковую гісторыю развіцця беларускай дзяржаўнасці, імкнучыся зацвердзіць правы і свабоды кожнага грамадзяніна Рэспублікі Беларусь і жадаючы забяспечыць грамадзянскую згоду, непахісныя асновы народаўладдзя і прававой дзяржавы. Сапраўды, кожны артыкул Канстытуцыі ў той ці іншай ступені пацвярджаў пералічаныя ў сваёй прэамбуле прынцыпы.



Не прайшло двух з паловай гадоў з дня набыцця Канстытуцыяй сваёй прававой моцы, як абраны паводле яе прэзідэнт А.Лукашэнка — колішні дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь 12-га склікання і сябра Канстытуцыйнай камісіі — пачаў рыхтаваць па сутнасці новы Асноўны Закон рэспублікі, якому надаў моцы ў лістападзе 1996 года праз антызаконныя метады. Гэтым самым ён груба парушыў артыкул 3 дзейснай Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, у якім гаворыцца: "Любыя дзеянні, што скіраваныя на аваладанне дзяржаўнаю ўладаю гвалтоўнымі метадамі, а таксама праз іншага кшталту парушэнні законаў Рэспублікі Беларусь караюцца паводле закону".

Паўстае пытанне: чым не задавальняла А.Лукашэнку Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь, што надавала яму як прэзідэнту паводле ягоных жа слоў, "царскія" правы. Справа ў тым, што паводле сваёй сутнасці Лукашэнка належыць да тыпу аўтарытарных кіраўнікоў. Гэтае пацвердзілі яго словы пра Адольфа Гітлера. Да таго самага тыпу належаў Іосіф Сталін, а гэтаксама прэзідэнт Ірака Садам Хусейн.

Гэткія людзі, як сведчаць працяглыя доследы псіхолагаў, паводле свайго біялагічнага прызначэння створаныя для барацьбы. У іх паводзінах шмат непрадказальнага. Яны не пазбягаюць свайго шанцу падначаліць сваёй волі іншых. Гэтыя людзі не толькі актыўныя, але і агрэсіўныя, яны заўжды падазраюць астатніх. Ім уласцівая прага помсты і зайздрасць, раздражнёнасць і нават лютасць. Як піша адзін са стваральнікаў навукі пра памежныя станы, Пётр Аннушкін, гэтыя людзі "заўжды патрабуюць пакоры і падначалення сабе і, наадварот, самі нават не збіраюцца цярпець катэгарычнага тону ад іншых...". Яны звычайна не вылучаюцца высокай ступенню духоўнага развіцця, абыякавыя да іншых людзей, нават блізкіх да сябе. "Пачуццё, сімпатыі і спачуванні, здольнасці зразумець чужое гора, — як заўважае той самы Аннушкін, — для іх незразумелыя".

Што да А.Лукашэнкі, дык пад яго апекай створана цэлая імперыя (Кіраўніцтва справамі прэзідэнта), што, калі меркаваць паводле дакладу старшыні Кантрольнай палаты Васіля Саковіча на сесіі Вярхоўнага Савета, у карупцыі дасягнула гэткага абсягу, чаго ўраду В.Кебіча, які крытыкаваў А.Лукашэнка, не магло прысніцца. Больш за тое, амаль усе тыя карупцыянеры і мафіёзі, якіх А.Лукашэнка абяцаў пакараць, апынуліся ў ягоных структурах.

(Заканчэнне на 2-й стар.)

### Праведзены вобыскі ў офісе Гродзенскай абласной арганізацыі АГП

Супрацоўнікамі міліцыі былі ўчынены вобыскі ў штаб-кватэры гродзенскай абласной арганізацыі Аб'яднанай грамадзянскай партыі і ў кватэры яе старшыні Валерыя Леванеўскага.

Як паведаміў БелаПАН В.Леванеўскі, вобыск праводзілі 7 супрацоўнікаў Ленінскага РАУС Гродна без санкцыі на тое пракурора і растлумачэння прычын таго, што адбываецца. У выніку былі канфіскаваны ўсе ўлёткі ў падтрымку кандыдата ў прэзідэнты Рэспублікі Беларусь Міхаіла Чыгіра. В.Леванеўскі так і не дамогся даведацца пра далейшы лёс канфіскаваных матэрыялаў. "Так што, калі ў горадзе з'явяцца дадзеныя ўлёткі, можна толькі здагадвацца, хто іх распаўсюджвае", — лічыць ён.

Нагадаем, што 2 сакавіка аналагічныя вобыскі супрацоўнікі праваахоўных органаў Гродна правялі ў офісах мясцовай незалежнай газеты "Пагоня" і абласнога грамадскага аб'яднання "Ратуша". Былі таксама канфіскаваныя матэрыялы, датычныя кампаніі па выбарах прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, абвешчанай Вярхоўным Саветам 13-га склікання.

**Наталля КУЛАГІНА, БелаПАН.**

### У выніку апытання 55 працэнтаў мінчан выказаліся за правядзенне выбараў прэзідэнта Беларусі ў 1999 годзе

Сацыялагічная служба "Зеркало" інфармацыйнай кампаніі БелаПАН правяла даследаванне, падчас якога дарослым жыхарам Мінска было прапанавана адказаць на пытанне, калі неабходна праводзіць выбары прэзідэнта Рэспублікі Беларусь — у 1999 альбо ў 2001 годзе.

Як вядома, прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка быў абраны ў 1994 годзе на пяцігадовы тэрмін — гэта значыць да 1999 года. Аднак у 1996 годзе ў выніку агульнарэспубліканскага рэферэндуму ў Канстытуцыю Беларусі былі ўнесены змяненні і дапаўненні, якія прадугледжвалі працяг тэрміну паўнамоцтваў прэзідэнта да 2001 года.

Большасць з 600 апытаных мінчан (55 працэнтаў) лічаць, што выбары прэзідэнта трэба правесці ў 1999 годзе; 25 працэнтаў выказаліся за 2001 год; астатнім 20 працэнтам было цяжка адказаць на прапануемае пытанне.

На пытанне "ЯК ВЫ ЛІЧЫЦЕ, АЛЯКСАНДР ЛУКАШЭНКА ВЫКАНАЎ СВАЕ ПЕРАДВЫБАРЧЫЯ АБЯЦАННІ, ДАДЗЕНЫЯ 5 ГАДОЎ ТАМУ?" толькі 4 працэнты рэспандэнтаў адказалі сцвярджальна. Больш за трэцюю частку рэспандэнтаў (36 працэнтаў) лічаць, што перадвыбарчыя абяцанні першага прэзідэнта Рэспублікі Беларусь выкананы часткова, а 44 працэнты апытаных заявілі, што Аляксандр Лукашэнка не выканаў сваіх абяцанняў. Цяжка было адказаць на дадзенае пытанне 16 працэнтам рэспандэнтаў.

**Леанід МІХЕЙЧЫКАЎ, БелаПАН.**

*Михаил ПОДОЛЯК*

## Виктор Гончар: трудный путь к свободе

Ровно 10 дней все мы ждали, как же все-таки власть поступит с Виктором Гончаром. Когда его выпустят и под каким предлогом. Но то, что произошло днем 11 марта, буквально леденит кровь в жилах. Гончара действительно выпустили спустя 10 "обещанных" судом суток. Но выпустили, обращаясь с ним самым изуверским образом.



Сегодня Виктор Гончар уже дома. Резко похудевший и практически обездвиженный. На желтушном лице отчетливо проявляются следы моральных и физических страданий. Если присмотреться, то нетрудно заметить многочисленные метки откровенного насилия: на запястьях следы от "браслетов", на спине большие синюшные пятна. У него спутано сознание и частично затруднена речь. Вряд ли в ближайшие дни Виктор Гончар сможет нормально питаться и пить воду. Наверняка теперь ему потребуются бесконечные капельницы, длительная восстанавливающая терапия и т.д.

Вот как события того дня комментирует жена Виктора Гончара, **Зинаида Александровна**:

— Виктора должны были выпустить еще в 11 часов утра. К этому времени у ворот изолятора уже собралась порядочная группа встречающих. Родственники, журналисты, правозащитники, политические сподвижники. Но непосредственно к нам его не выпустили. Вы ведь понимаете, в каком он находился состоянии? Виктора Иосифовича, прикованного наручниками к поручням, тайно вывезли из тюрьмы в милицейском автобусе. Вывезли — и в одном пиджаке буквально выбросили из автобуса где-то в районе улицы Беды. Домой он, избитый и искалеченный, добирался самостоятельно, несколько раз теряя при этом сознание.

Жена председателя ЦИКа, рассказывая про все эти ужасы, как бы заново возвращалась к пережитому. Очевидно, что Зинаида Александровна за эти 10 дней пережила не меньший шок, нежели ее муж. Уже с первого дня заточения она наверняка знала, как жестоко обходятся с Гончаром тюремные власти. Помимо этого она испытала невероятные психологические перегрузки, столкнулась с подчеркнутым безразличием властей и откровенным враньем чиновников. Что с нами происходит, если в конце XX века в центре Европы "народная" власть причиняет столько страданий матери, жене, просто смелой женщине?!

— *Уверена, что в тюрьме на Виктора Иосифовича оказывалось сильное психологическое и физическое давление,* — говорит Зинаида Александровна. — *Один только пример: некие люди в масках, включив громкую музыку и выгнав всех из камеры, насильно влили Виктору 400 граммов глюкозы. После всей этой "тюремной терапии" у него отказала левая рука. Сегодня его надо срочно госпитализировать. Но, поверьте, я уже никому не доверяю. Ведь с тяжело больным и беззащитным человеком в больничных условиях можно сделать все что угодно.*

Как нам стало известно, в тот же день, когда Виктора Гончара выбрасывали из тюрьмы, власть возбудила против него уголовное дело по **статье 190 "Самовольное присвоение звания или власти должностного лица"**. По этой статье председатель ЦИКа может получить до двух лет строгого режима.

— *Мне больно видеть, что власть сделала с моим мужем,* — продолжает Зинаида Александровна. — *Но я восхищаюсь его мужеством. Ведь надо же что-то делать. Неужели наша родина не достойна лучшей доли? Я благодарна работникам западных посольств, Белорусскому Хельсинкскому комитету, председателю ОБСЕ Волебэку и всем тем, кто поддержал нас в столь трудное время.*

Арест Виктора Гончара, а также последовавшие за этим бурные события — голодовки протеста осужденных членов Центральной избирательной комиссии по выборам президента Республики Беларусь, громкие заявления ряда белорусских и международных демократических институтов, пропагандистская и репрессивная активность властей — произвели весьма сильное впечатление на столичную общественность. Очевидно, нам еще предстоит подвести окончательные итоги первого и, возможно, не последнего ареста представителей ЦИКа. Тем не менее кое-какие закономерности уже себя проявили. **Во-первых, Виктор Гончар отсидел полный срок административного заключения, составивший 10 суток.** И это несмотря на сухую голодовку, объявленную председателем ЦИКа, несмотря на многочисленные обращения как отечественных, так и зарубежных правозащитных организаций. Власть решила, что Гончар должен отсидеть от звонка до звонка. Напомним только, что Виктора Иосифовича арестовали не за газетную агитацию против Лукашенко, не за оппозиционное граффити и даже не за активное участие в митингах и пикетах. Его арестовали за, так сказать, "бутербродные посиделки" единомышленников, которые видят несколько иной путь развития Беларуси. Прежде всего — это путь демократических преобразований и закрепления суверенных ценностей.

**Во-вторых, власти продемонстрировали необычайную жестокость в отношении Виктора Гончара.** Скорее всего, именно его власть считает сегодня наиболее реальным и перспективным противником. Не вызывает удивления также тот факт, что официоз абсолютно игнорировал все обращения международных институтов, касающиеся судьбы Гончара. Так, в ответ на послание Госдепартамента США белорусский МИД заявил, что деятельность председателя ЦИКа *"провоцирует дестабилизацию общественно-политического положения в республике"*. А обращение председателя ОБСЕ Кнута Волебэка, в котором, в частности, говорится: *"Мне стало известно, что г-н Гончар объявил голодовку в знак протеста против своего задержания. В результате этого его здоровье находится под угрозой. Я надеюсь, что это именно тот случай, когда гуманистические соображения должны превалировать над всеми остальными"*, вообще осталось без внимания. Собственно, власть еще раз продемонстрировала уровень своей внешнеполитической культуры. **В-третьих, и Верховный Совет 13-го созыва, и многочисленные правозащитные организации, и политические партии все-таки могли занять более деятельную и активную позицию в связи с арестом Виктора Гончара.**

## Кансультацыйна-каардынацыйная рада дэмакратычных сіл Беларусі распрацавала свой план дзейнасці

План дзейнасці на бліжэйшы перыяд Кансультацыйна-каардынацыйнай рады (ККР) дэмакратычных сіл Беларусі, утворанай па рашэнні Кангрэса дэмакратычных сіл, быў зацверджаны на пасяджэнні рады.

Члены рады абазначылі сем стратэгічных накірункаў сваёй працы, сярод якіх — выбарчыя і іншыя масавыя кампаніі, палітычная і эканамічная праграмы вывядзення Беларусі з крызісу, прафсаюзная і сацыяльная палітыка, прававыя пытанні і іншыя.

Як вядома, у ККР няма пастаяннага старшынствуючага. На кожныя тры месяцы ў якасці кіраўніка рады будзе выбірацца адзін з яе членаў. Першым старшынствуючым быў вызначаны лідэр Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Народная Грамада) Мікалай Статкевіч.

Удзельнікі пасяджэння таксама прынялі дзве заявы. У першай усе дэмакратычныя партыі і рухі Беларусі заклікаюцца актыўна ўдзельнічаць у святкаванні Дня Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь. Шэсце і мітынг, прысвечаныя гэтай падзеі, пройдуць у Мінску 14 сакавіка.

У другой заяве рада выказвае сваё стаўленне да выбараў у мясцовыя Саветы дэпутатаў, якія пройдуць 4 красавіка. У заяве адзначаецца, што выбары праводзяцца па законе, які дае "вертыкалі" шырокія магчымасці для фальсіфікацыі. Улады безгрунтоўна адмовілі ў рэгістрацыі кандыдатамі ў дэпутаты абсалютнай большасці незалежных прэтэндэнтаў, вылучаных шляхам збору подпісаў. Такім чынам, лічаць аўтары заявы, значная частка грамадства, якая прытрымліваецца дэмакратычных перакананняў, пазбаўлена магчымасці прагаласаваць за сваіх кандыдатаў. ККР заяўляе аб сваім рашэнні наладзіць дзейсны кантроль за выбарамі, мэта якога — не дапусціць фальсіфікацыі іхніх вынікаў.

**Уладзімір ГЛОД, БелаПАН.**

### Рабочыя асноўных цэхаў Гомельскага навукова-вытворчага аб'яднання "Сейсматэхніка" правялі 40-хвілінную забастоўку

10 сакавіка рабочыя пяці асноўных цэхаў Гомельскага навукова-вытворчага аб'яднання "Сейсматэхніка" правялі стыхійную забастоўку. Як стала вядома БелаПАН, на працягу 40 хвілін яны адмаўляліся прыступаць да працы і патрабавалі ад адміністрацыі без прамаруджвання пагасіць запазычанасць па заработнай плаце за снежань—студзень, якая складае, адпаведна, 1 млрд. 275 млн. рублёў і 1 млрд. 668 млн. рублёў.

Дакладнага адказу ад кіраўніцтва на свае патрабаванні забастоўшчыкі не атрымалі, паколькі генеральны дырэктар аб'яднання Алег Алампіеў у той дзень знаходзіўся ў камандзіроўцы. Як паведамілі ў прыёмнай кіраўніка аб'яднання, ён даў указанне ўсім сваім намеснікам не каменціраваць сітуацыю прэсе.

Заводская арганізацыя Свабоднага прафсаюза Беларускага накіравала генеральнаму дырэктару прадстаўленне па факце парушэння заканадаўства аб працы ў частцы несвоечасовай выплаты зарплаты.

**Ірына МАКАВЕЦКАЯ, БелаПАН.**

**Погляд**

## Яны выведуць нашу краіну з балота

Добры дзень, паважаная "Народная воля"!

Стоячы у чэргах за прадуктамі, многа чаго пачуеш і спазнаеш ад людзей. Нягледзячы на ўсялякія штабы, дэкрэты, указы, праверкі, інспекцыі і г.д., патрэбных прадуктаў не большае. За ўсім трэба стаяць у чарзе, ды ці яшчэ дастаішся? Пра масла і сыр у Барысаве ўжо забыліся. А між тым хвалёныя калгасы яшчэ быццам ніхто не распускаў...

Адзін дзядок, стоячы за крывянай каўбасой, сказаў: "Ай, як маніць Лукашэнка па тэлебачанні! Я цяпер яго не слухаю, адразу адключаю, надакучыў!" І ці адзін ён так лічыць?

Сапраўды, надакучыла, што кожны дзень нам вешаюць лапшу на вушы. Гавораць адно, а бачыш зусім іншае. Фальш і падман на кожным кроку.

Ну вось хоць бы той нядаўні перапіс. Навошта было ў ім ставіць пытанне пра родную мову, калі апытальныя лісты амаль усім прыносілі на рускай і нават на настойлівае патрабаванне даць беларускі не звярталі ўвагі? Я лічу, што ўлады ганебна паставіліся да беларусаў — карэннай нацыі краіны...

Мне вельмі хацелася б, каб адбыліся прэзідэнцкія выбары 16 мая. Выказваю вялікую павагу мужным дэпутатам Вярхоўнага Савета 13-га склікання і членам Цэнтральнай выбарчай камісіі. Многіх кінулі за краты, але, веру, іх не запалохаць.

Падтрымліваю М.Чыгіра, ён чэсны, вопытны, адукаваны і культурны чалавек. Спадзяюся, што такія, як ён, свядомыя людзі, калі мы іх абяром, выведуць нашу Беларусь з гэтага балота, у якое завёў нашу рэспубліку А.Лукашэнка. Яшчэ раз жадаю ім мужнасці і вытрымкі.

**З павагай —**

**Галіна КАНДРАЦЕНКА.**

*г.Барысаў.*

### Мінскі трактар не ўступае замежным

Самыя станоўчыя водгукі атрымала экспазіцыя трактароў "Беларусь" на штогадовай міжнароднай выстаўцы сельгастэхнікі, якая адбылася ў Парыжы ў пачатку сакавіка.

Паводле водгукаў спецыялістаў, прастатой кіравання і эканамічнасцю беларуская тэхніка выгадна адрознівалася ад узораў сельгасмашын еўрапейскіх і амерыканскіх фірм.

**Ларыса КАШТАНАВА.**

### Надвор'е

13 і 14 сакавіка на тэрыторыі рэспублікі захаваецца воблачнае з праясненнямі надвор'е. 13-га ўначы — на большай частцы тэрыторыі, удзень — па ўсходзе рэспублікі кароткачасовы снег; 14-га — пераважна без ападкаў. Вецер паўночна-заходні, з пераходам на паўночна-ўсходні, 6—11 м/с. Тэмпература паветра ўначы 13-га — -4...-9, 14-га — -9...-14; удзень — 0...-5.

Пр. Марыны, Васіля, Мікалая, Несцера.
К. Бажэны, Хрысціны.

**75 гадоў** з дня нараджэння (1924) М. М. Зінкевіч, беларускай актрысы.

**САКАВІК 13**

**'99 СУБОТА**

| | |
|---|---|
| Усход 6.30 | Апошн. квадра |
| Захад 18.10 | 10 сакавіка |
| Даўж. дня 11.40 | Усход 5.29 |
| | Захад 14.01 |

Пр. Антаніны, Еўдакіі, Антона, Несцера.
К. Мацільды, Лазара, Лявона.

**500 гадоў** назад (1499) горад Менск (Мінск) атрымаў магдэбургскае права.

**30 гадоў** назад (1969) на базе Педагагічнага інстытута заснаваны Гомельскі дзяржаўны універсітэт.

**САКАВІК 14**

**'99 НЯДЗЕЛЯ**

| | |
|---|---|
| Усход 6.27 | Маладзік |
| Захад 18.12 | 17 сакавіка |
| Даўж. дня 11.45 | Усход 6.07 |
| | Захад 15.14 |

Пр. Арсеня, Фядота.
К. Людвікі, Клеменса.

ДЗЕНЬ КАНСТЫТУЦЫІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

**САКАВІК 15**

**'99 ПАНЯДЗЕЛАК**

| | |
|---|---|
| Усход 6.24 | Маладзік |
| Захад 18.14 | 17 сакавіка |
| Даўж. дня 11.50 | Усход 6.41 |
| | Захад 16.33 |

**Факт**

## Нравится это власти или не нравится, но идет сбор подписей за выдвижение кандидатов в президенты Республики Беларусь

По сведениям, полученным из Центральной избирательной комиссии, образованной депутатами Верховного Совета 13-го созыва, 12 марта 1999 года закончился срок подачи списков членов инициативных групп по выдвижению кандидатов в президенты Республики Беларусь. Пресса уже сообщала, что Центральная комиссия зарегистрировала две инициативные группы по выдвижению кандидатами в президенты Михаила Чигиря и Зенона Позняка. И, по сообщениям избирательных штабов этих политических деятелей, сбор подписей за их выдвижение идет успешно.

Подписи, а их надо не менее 100 тысяч каждому, будут собираться до 26 марта 1999 года. Остальным претендентам на президентский пост, в том числе и нынешнему главе государства, в указанный период необходимо заручиться подписями не менее 70 парламентариев. Но что проще — собрать 100 тысяч подписей граждан или 70 подписей депутатов — трудно сказать. Ведь на первых президентских выборах набрать необходимое количество подписей парламентариев удалось не всем.

А пока будущие претенденты собирают подписи, Центральная и территориальные комиссии по выборам формируют участковые комиссии. Регистрация кандидатов в президенты начнется с 11 апреля.

Если, конечно, ничего не случится.

**Валерий АЛЕКСЕЕВ.**

### За российский газ будем рассчитываться техникой

В счет задолженности за российский природный газ правительство Беларуси поставит в Россию сельхозтехники на 500 млн. рублей.

Министр сельского хозяйства и продовольствия РФ Виктор Семенов отметил, что в связи с сокращением парка российской сельхозтехники могут возникнуть трудности с подготовкой к весенним полевым работам. По словам Виктора Семенова, развитие лизинга сельхозтехники остается важным направлением господдержки аграрного сектора. Он сообщил, что объем реальных средств для осуществления лизинговой деятельности не превысит 1,4 млрд. рублей. Это связано с тем, что отсроченные платежи будут возвращены в лизинговый фонд лишь в конце 1999 года.

**РИА "Новости".**

**Криминал**

## За незаконные кредиты — в тюрьму

Горько поплатился директор могилевского частного предприятия "Фатова" Вячеслав Диденко за получение кредитов по заведомо ложным документам. В 1995 году он обратился в филиал Могилевского АКБ "Приорбанк" за валютой и указал, что к основным фондам его предприятия якобы относится здание базы отдыха у деревни Солтановка Могилевского района общей стоимостью свыше четырех миллиардов рублей. На самом же деле эта база принадлежала уже другим коммерческим фирмам. Тем не менее директор этого частного предприятия получил сразу 75 тысяч долларов США и приобрел на них у польской фирмы "Бодакс" оборудование для розлива газированной воды. Причем обзавелся им без уплаты таможенных пошлин, сумма которых составляла 3863 доллара. И тут Диденко помог инспектор Могилевской таможни Александр Сапрыкин, оказавший эту услугу за вознаграждение в 500 долларов. Но одного кредита коммерсанту оказалось мало. Якобы для приобретения дополнительного оборудования он по подложным документам получил еще 30 тысяч долларов.

Все эти средства щедро выдавал директор филиала Могилевского АКБ "Приорбанк" Сергей Балашенко, знавший, кстати, о "липовом" положении фирмы "Фатова". Ведь та же база отдыха числилась в уставном фонде коммерческих фирм "Белый лотос" и "Атлант-А" и находилась уже в залоге филиала этого же банка.

Судебное разбирательство этого финансового хитросплетения длилось около месяца. Суд Центрального района Могилева под председательством Галины Кужелевой признал Вячеслава Диденко виновным в выманивании кредитов, в сокрытии груза от таможенного налогообложения и приговорил его к двум годам лишения свободы с отбытием наказания в исправительно-трудовой колонии общего режима. Принято также решение взыскать с Диденко в пользу местного бюджета сумму указанного выше таможенного платежа. Бывший директор филиала банка Сергей Балашенко за пособничество в предоставлении кредитов и превышение служебных полномочий оштрафован в общей сложности на 325 миллионов рублей. Таможенник Александр Сапрыкин за получение взятки и превышение служебных полномочий, принесших крупный ущерб государству, осужден на пять лет с отбытием наказания в исправительно-трудовой колонии усиленного режима с конфискацией имущества. Все трое решением суда лишены права занимать определенные должности в течение четырех-пяти лет.

**Николай НАЗАРОВИЧ.**

**Што хвалюе...**

## Вясна прыйшла ці не прыйшла?

Сапраўды, самае надзённае пытанне ў апошнія дні. Толькі-толькі пачалі адчуваць першыя веснавыя подыхі, цурчанне ручаёў, доўгачаканыя птушкавыя трэлі... І вось ізноў зіма, непрыемныя завеі сакавіка. Калі скончыцца зіма? Ці будзе Беларусь палярнай краінай, дзе зіма доўжыцца амаль што палову года? З гэтымі пытаннямі я звярнулася да сіноптыкаў.

У Белгідрамеце хуткага прыходу вясны не паабяцалі. Можна чакаць нават пахаладання. Хутка на Беларусь прыйдзе арктычны антыцыклон. Удзень тэмпература паветра будзе каля $-5^0$, а ўначы маразы да $-14^0$.

А па народных прыкметах лічыцца: якая сярэдзіна сакавіка, такім будзе і лета. Падзьмула цёплым паветрам — чакай лета цёплага і мокрага, калі ж снег і маразы — лета будзе халодным, а калі пойдзе дождж — усё лета пакутаваць ад дажджоў.

Божачкі, да ўсіх нашых клопатаў і турбот, яшчэ і бясконцыя халады...

**Ганна СОУСЬ.**

## Подписка на "Народную волю" продлена до 20 марта. Не опоздайте!

